© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №16-17(1-2), 2011

Уладзіслаў Іваноў

# «Разам, але амаль асобна»

Монолатій, Іван (2010). *Разом, але майже окремо. Взаємодія етнополітичних акторів на західноукраїнських землях у 1867–1914 рр.* Івано-Франківськ: Лілея-НВ. 763 с.

*«Гэтая імперыя мае загінуць. [...] Усе народы створаць свае гнюсныя маленькія дзяржаўкі, і нават габрэі абвесцяць свайго караля ў Палесціне. [...] Цяперашні час толькі і прагне стварыць незалежныя нацыянальныя дзяржавы! Больш ніхто цяпер не верыць у бога. Людзі не ідуць больш у цэрквы. Яны ідуць да нацыянальных супольнасцяў».*
Ёзэф Рот, «Марш Радзецкага»

Вельмі цікава, што першыя ўражанні і асацыяцыі пасля азнаямлення з манаграфіяй амаль ніяк не звязаныя з асноўным сюжэтам кнігі. Мяне як даследніка не столькі зацікавіў дэталёвы аналіз стасункаў між этнічнымі супольнасцямі Заходняй Украіны, колькі выразная паралель з рэгіёнам, з якім звязаная гісторыя беларусаў, – Віленшчынай. Менавіта гэты аспект можа прывабіць беларускага чытача – паралелі вымалёўваюцца няўмольна.

Зразумела, што падобнае даследаванне здаўна чакае Віленшчыну з яе цікавымі і няпростымі ўзаемадачыненнямі паміж беларусамі, палякамі, літоўцамі, габрэямі, расейцамі ды іншымі. Як і Заходняя Украіна, Віленшчына – гэта складанае скрыжаванне культурных і рэлігійных шляхоў, яшчэ адна еўрапейская зона сутыкнення і ўзаемапранікнення этнічных і канфесійных супольнасцяў. Такіх зонаў не так шмат на ўсходнім зломе Еўропы. Украінскае даследаванне атрымалася надзвычай цвярозым, пазбаўленым клішэ і ацэначных меркаванняў, і яго, без сумневу, мусіць узяць на ўзбраенне будучы аўтар этнапалітычнага вывучэння Віленшчыны.

Але вернемся да самой кнігі. Адносна малады ўкраінскі даследнік, доктар філасофіі ды палітычных навук і, на дадатак, кандыдат гістарычных навук, Іван Маналацій рэпрэзентуе новую генерацыю ўкраінскіх навукоўцаў, якія не задавольваюцца вузкім бачаннем праблемы. І такая

тэндэнцыя зразумелая: папярэднікі назапасілі дастаткова матэрыялу рознага кшталту, таму настаў час крытычнага разгляду і тэарэтычнага абагульнення тэарэтычных здабыткаў XX – пачатку XXI стагоддзя.

Маналацій віртуозна падыходзіць да далікатнай тэмы і досыць упэўнена перабірае вузлавыя праблемы, якія знітоўвалі ўкраінцаў з палякамі, немцамі, габрэямі ды іншымі супольнасцямі Дунайскай імперыі XIX – пачатку XX стагоддзяў. Адной з перавагаў працы можна лічыць тое, што даследнік паставіў у цэнтр увагі не ўкраінцаў, але рэгіён ува ўсёй яго разнастайнасці. Пры гэтым аўтар тоўстай і, на першы погляд, неадольнай манаграфіі спрабуе спалучыць розныя дысцыпліны: палітычную навуку, сацыялогію і гісторыю.

Метадалагічным і тэарэтычным цэнтрам працы (раздзел 1) выступае інтэракцыянізм. Такім парадкам, пазначаецца асноўная крыніца інтэлектуальных і метадалагічных уплываў – амерыканская школа інтэракцыянізму сацыялогіі, этналогіі ды іншых гуманітарных дысцыплінаў. Праз феномен інтэракцыі (узаемадзеяння) выразна вымалёўвацца кола інтарэсаў аўтара і прадмет даследавання.

Тэарэтычная частка манаграфіі насычаная дэталёвым аглядам і аналізам існых падыходаў да нацыяналізму і нацыянальнага. Для лепшага разумення сітуацыі Заходняй Украіны аўтар задзейнічаў усе канцэпты нацыятварэння – ад прымардыялісцкага натхнення Русо, Фіхтэ і Гросбі да інструменталісцкага ўзору Ўілсана, Ройса і Браса, не абмінаючы, вядома, моцнага і дасюль ўплывовага мадэрнісцка-канструктывісцкага падыходу, прадстаўленага такімі вядомымі аўтарамі, як Гелнэр, Гідэнс, Габсбаўм, Андэрсан або Барт.

Чаму 1867–1914 гады? Аўтар пачынае даследаванне з 1867 года, калі абвешчаныя ў 1848-м прынцыпы аўстрыйскай канстытуцыйнай манархіі набылі сваю сапраўдную сілу. Менавіта ў 1867 годзе, у выніку гэтак званага Аўстра-вугорскага пагаднення або кампрамісу, Дунайская манархія зрабілася дуалістычнаю – Аўстра-Вугорскаю – і адмовілася ад практыкі цэнтралізаванага абсалютызму. Галіччына і Букавіна набылі статус аўтаномных адзінак. Народы Дунайскай імперыі зведалі ўнікальны палітычны досвед: парламенцкую манархію, «вялікую эмансіпацыю», дэмакратычныя свабоды, права развіваць свае мовы і сістэму адукацыі, ствараць партыі ды рухі.

Пасля 1867 года Вена не навязвала сваім гетэрагенным рэгіёнам аўтарытарнай ідэалогіі, а прапаноўвала ім своеасаблівую альтэрнатыву, названую ў працы І. Маналацыя **аўстралаялізмам**, або **аўстралаяльнасцю**. Падыход засноўваўся на вернасці і адданасці дому Габсбургаў, за што манархія забяспечвала пэўную аўтаномію ўсіх прысутных на палітычнай сцэне груповак. Мела месца «дамова», «кантракт» паміж Венай і правінцыямі, паміж Габсбургамі і ўсімі значнымі этнічнымі ды нацыянальнымі супольнасцямі імперыі.

Варта падкрэсліць, што правамі карысталіся не толькі хрысціяне, але і габрэі з караімамі. Нічога падобнага да зоны аселасці Расейскай імперыі ў

Аўстра-Вугоршчыне не было. Нацыянальнае і палітычнае развіццё ўкраінцаў, якія жылі за Габсбургамі, было адносна вольнае і не сутыкалася з перашкодамі ў прызнанні статуса мовы, легальнай дзейнасці рухаў і партыяў. Нават ва ўмовах канфрантацыі ўкраінцаў з палякамі (асноўны канфліктны вузел рэгіёну ў гэты перыяд) заходнія ўкраінцы існавалі ў кантэксце еўрапейскіх правілаў і працэдураў.

З пачаткам Першай сусветнай вайны, якая паклала канец існаванню дуалістычнай манархіі, скончыўся і эксперымент канстытуцыйнай манархіі. Зрэшты, аўтар даводзіць, што гэты цікавы і карысны досвед заходніх украінцаў стаўся надзвычай плённым для далейшага развіцця ўкраінскай дзяржаўнасці – не толькі ў межах Заходняй Украіны. Яшчэ і сёння гэтыя абшары застаюцца праеўрапейскай лабараторыяй усёй украінскай палітычнай культуры.

Інтарэс да нацыянальных стасункаў у заходнеўкраінскім рэгіёне абумоўлены безупыннай актуалізацыяй этнічнай тэмы. Нават касмапалітычныя тэндэнцыі ўнутры ЕС пакуль мала заўважныя на тле палітыкі культурнай дыферэнцыяцыі ды захавання культурнай і этнічнай разнастайнасці. У пэўнай ступені тагачасная этнічная карціна можа быць перанесеная і на сучаснае грамадства Украіны, прынамсі, аўтар спрабуе правесці адпаведныя гістарычныя параўнанні, адкінуўшы цяжар шматузроўневага каланіялізму рэгіёну: аўстрыйскага, польскага, румынскага, нямецкага, савецкага.

«*Разам, але амаль асобна*» – гэтая формула, хоць і пазычаная з амерыканскай юрыдычнай практыкі, на думку аўтара, цудоўна падкрэслівае этнапалітычную спецыфіку нацыянальнай палітыкі Вены. Усе этнанацыі заходнеўкраінскага рэгіёну Імперыі існавалі і ўзаемадзейнічалі пры прынцыповым захаванні ўласнае тоеснасці. Пры гэтым этнанацыянальныя супольнасці захоўвалі свае межы, вызначаныя іх структурай ды інтарэсамі. Больш за тое, часта рэлігійныя, прафесійныя і эканамічныя чыннікі спрыялі замаруджванню або нават спыненню змешвання розных групаў. Сваю спецыфіку забяспечваў і ідэалагічны фактар – падзел грамадства паводле лініі кансерватызм/сацыялізм.

Менавіта на 1867–1914 гады прыпадае бурлівае нацыянальнае развіццё, калі супольнасці рэгіёну адыходзяць ад рэлігійнай да этнічнай, або этнічна-палітычнай самаідэнтыфікацыі. Гэтаму спрыялі эканамічныя пераўтварэнні Вены і ліберальныя рэформы сацыяльнай ды нацыянальнай сферы. На дадатак, да ўзмацнення самаідэнтыфікацыі прыводзілі канфлікты ўнутры імперыі: украінска-польскі, аўстрыйска-вугорскі, вугорска-румынскі.

Акрамя іншага аўтар цікава ілюструе гэты пераход ад рэлігійнай да этнічнай (нацыянальнай) ідэнтыфікацыі на прыкладзе тагачаснай мастацкай літаратуры (аўстрыйскай, польскай і ўкраінскай). Зварот даследніка да літаратуразнаўства пры разглядзе этнапалітычнай сітуацыі Заходняй Украіны, а шырэй і ўсёй Дунайскай імперыі, падаецца сапраўды значным унёскам у праблематыку. Гэтак, шматлікія няўлоўныя нюансы адносінаў украінцаў з габрэямі, палякамі і

аўстрыйскімі немцамі выразна вымалёўваюцца акурат не праз палітычны або гістарычны аналіз, а дзякуючы разгляду твораў Івана Франка, Вольгі Кабылянскай, Васіля Стэфаніка, Ёзэфа Рота ды іншых.

Што да крытыкі манаграфіі, то яна тычыцца пераважна асноўнага падыходу і тэарэтычнай арыентацыі аўтара. Як ужо адзначалася, даследнік разглядае этнапалітычнае развіццё Дунайскай імперыі праз прызму інтэракцыянізму. Мінусам падыходу ёсць засяроджанасць на мікраўзроўні. Таму інтэракцыянізм наагул і ў версіі Івана Маналація выглядае дастаткова кансерватыўным, непахісным і часам штучным канструктам.

Таксама крытычна можна паставіцца да матэматычнага аналізу этнічных групаў. Гаворка ідзе пра выкарыстанне такіх крыху ірацыянальных параметраў, як «энергія этнасу», «самабытнасць» і падобнае. Тут насцярожвае эсенцыялісцкі падыход да разумення «нацыі», «этнасу», «народу», хаця аналіз дазваляе і іншыя інтэрпрэтацыі.

Зрэшты, варта спыніцца на разглядзе асноўных вынікаў даследавання. Досыць ліберальная і адкрытая палітыка Вены ў дачыненні да розных нацыянальных групаў імперыі спрыяла досыць памяркоўным адносінам унутры краіны. У выніку ўсе супольнасці рэгіёну пазбеглі сацыяльнай і культурнай ізаляцыі. Не зважаючы на базавую адрознасць ад хрысціянскага насельніцтва, ні габрэі, ні караімы не выключаліся з грамадскага жыцця, застаючыся «іншымі сваімі».

У Івана Маналація эвалюцыя дачыненняў між этнічнымі супольнасцямі адбываецца на трох узроўнях мабілізацыі. Першы – латэнтны, калі групы толькі заяўляюць пра сваё існаванне. Другі ўзровень – арганізацыйны, калі супольнасці набываюць развітую структуру. І нарэшце, трэці – палітычны, што прадугледжвае афармленне палітычных інстытутаў і партыяў.

Пры гэтым мяжа паміж нацыямі і групамі захоўвалася, як даводзіць аўтар, перадусім дзякуючы рэлігійнаму чынніку. Сваю ролю грала і эканамічная сітуацыя. У той час як украінцы былі пазбаўленыя зямлі і доступу на рынак, палякі мелі больш магчымасцяў карыстацца зямельным фондам, а габрэі – магчымасць развіваць гандаль. Такім чынам, канкурэнцыя або барацьба за рэсурсы прывялі да радыкалізацыі ўкраінцаў ды палякаў і дыскрэдытацыі супольнага жыцця пад апекай Вены. Радыкальныя патрабаванні атрымалі палітычную перспектыву на пачатку ХХ стагоддзя, калі Першая сусветная вайна пэўным чынам «дапамагла» ажыццяўленню незалежніцкіх мараў украінскай і польскай элітаў.

Аўтар паказвае, што палякі – адзіная група, якая праводзіла наступальную палітыку ў дачыненні да «чужых». Тады як габрэі, украінцы і аўстрыйскія немцы абралі стратэгію абароны ўласных інтарэсаў. Канфлікты і радыкалізацыя з’явяцца пазней – у выніку палітызацыі адносінаў падчас вайны і рэвалюцыяў.

*«Разам, але амаль асобна»* – манаграфія, якая, хоць і прысвечаная Заходняй Украіне, насамрэч будзе цікавая для шырокага кола чытачоў, бо прэзентуе аналіз і тлумачэнні паразы

мірных этнічных і культурных дачыненняў у Аўстра-Вугорскай імперыі. Праца гэтая мае не толькі гістарычны інтарэс, але можа быць цікавая для даследнікаў сучасных этнічных і палітычных працэсаў. Аўтар скіроўвае ўвагу на памылкі федэралізму ў мінулым і разважае над магчымымі мадэлямі развіцця Еўропы XXI стагоддзя. Бо, як ні дзіўна, еўраінтэграцыя часам прыводзіць да напаўнення формулы «разам, але амаль асобна» сучасным палітычным і культурным зместам.